# КРЫВІНКА

ВЕРАСЕНЬ
№ 14 (115)
2012 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА


”Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай”.
**Ул. Караткевіч.**



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## Адчуць сябе Народам

Пасля выбараў жыццё будзе працягваецца па-ранейшаму. Змен у лепшы бок, думаю я, нам чакаць не прыходзіцца. Патлумачу, чаму. Тыя “народныя абраннікі”, якія займуць крэслы ў новай Палаце, скрозь праўладныя. То бок, тое, што яны “перамаглі” на выбарах, не выпадковасць. Спачатку іх адабралі з вялізнай абоймы чыноўнікаў, якія патэнцыйна маглі б прэтэндаваць на ганаровы пост, і размеркавалі па ўчастках, каб яны не змаглі канкураваць адзін з другім. Абсалютная бальшыня – 63 абраныя дэпутаты са 109-ці прадстаўляюць так званую арганізацыю “Белая Русь”, якая па сутнасці з’яўляецца неафіцыйнай партыяй, якую падтрымлівае сам прэзідэнт і якая падтрымлівае прэзідэнта. Рэшту прадстаўляюць вертыкальшчыкі і бізнесмены, якія таксама аблашчаны рэжымам і якія паўсюль спрыяюць яму.

Не думаю, што гэтыя абранікі сапраўды прыкладалі нейкія звышнамаганні, каб заваяваць давер выбарцаў. На месцах пра іх ніхто толкам не ведае. Але прэзідэнцкая вертыкаль зрабіла ўсё, каб у мясцовай прэсе і на вітрынах магазінаў на відных месцах з’явіліся іхнія партрэты і праграмы. Маўляў, чытайце, зайздросце, які анёл гэты чалавек, і галасуйце за яго. Каму з кандыдатаў гэтага недастаткова, каб перамагчы на выбарах, і людзі ўспрымуць іх цвяроза і не прагаласуюць, існуе механізм фальсіфікацыі выбараў. Для гэтага неабавязкова чакаць начы, каб укінуць у скрыню фальшывыя бюлетэні ці няправільна іх падлічваць на карысць праўладнага кандыдата. Можна проста паказаць падслепаватым пенсіянеркам месца ў бюлетэні, дзе ставіць галачку. Тым больш, што яны па старой савецкай звычцы тое просяць самі. Можна дазволіць дачцэ прагласаваць за маці і г.д. Што ў нас паспяхова робіцца. Канечны вынік і складаецца вось з такіх маленькіх непрыкметных парушэнняў. А для таго, каб яны маглі мець месца, трэба адданая справе фальсіфікацый выбарчая камісія. Менавіта таму ў нашы мясцовыя камісіі не ўключаюць людзей неправерханых.

Назаўтра пасля выбараў, развозячы па райцэнтру малако, я задаваў выпадковым суразмоўцам пытанні, як і за каго яны галасавалі. Абсалютная бальшыня з іх адказвалі, што яны не хадзілі на выбары, ці галасавалі супраць усіх або “за маладзейшага “ кандыдата. То бок, за таго, які набраў 7 065 галасоў і не прайшоў. Калі б гэтыя людзі мелі мужнасць сабрацца назаўтра пасля выбараў на плошчы, каб паглядзець адзін аднаму ў вочы, яны б зразумелі, наколькі нас многа. Мы б змаглі адчуць сябе не быдлам, якое жменька паганятых гоніць у патрэбным кірунку, а яго вялікасцю Народам. Якога, на вялікі жаль, у нас пакуль што не існуе.

**Г.Станкевіч.**

НАША ЖЫЦЦЁ

## ПРАДАЦЬ ЯБЛЫКІ

Едучы ў Паўазерскую базавую школу, я мінаю шмат населеных пунктаў. У многіх вёсках сялянскія падворкі ўшчыльную прымыкаюць да дарогі, так што бачна, што на іх робіцца.

Шмат якія дамы стаяць пакінутыя, а сцяжыны да іх параслі травой. А вось у садах каля іх сёлета небывалы ўраджай яблыкаў. Скрозь усцяж дарогі пад яблынямі на зямлі чырванеюць і жаўцеюць дары восені. Іх ніхто не спяшаецца прыбіраць. Так і ляжаць яны тыднямі пад яблынямі, ажыўляючы сумны вераснёўскі пейзаж. Чаму ж у вёсках сяляне не прыбіраюць яблыкі? Пэўна таму, што кароў, каб іх скарміць, у вёсках ужо не засталося. А прадаваць іх па тых закупных цэнах, якія нам устанавілі чыноўнікі, няма аніякага сэнсу.

Для тых, хто не ў курсе справы патлумачу, што Бешанковіцкае РСТ (раённае спажывецкае таварыства) ў жніўні прынімала яблыкі па 400 рублёў за адзін кг, а ў верасні ўжо па 350. Крыху вышэй – па 600 рублёў за кг прынімалі яблыкі ў “АграВітВіне”. Гэта ў той час, калі цэны на яблыкі на рынку ці ў дзяржгандлі часам сягаюць да 10 -12 000 за кг. Кілаграм польскіх яблыкаў у нас прадаюць дзесьці за 1 даляр.

Так што здаўшы пару мяшкоў яблыкаў ты не разбагацееш, адно хопіць на бутэльку віна, якое, дарэчы, і робяць з тых жа яблыкаў. Вось таму і займаюцца яблыкамі амаль выключна тыя, хто ад таго віна не адмаўляецца.

Раней у раёне быў свой пладова-агароднінны завод у Фролкавічах. З яблыкаў там рабілі шмат кансерваў. Успомнім хаця б яблыкі працёртыя з цукрам. Сёння каб іх пакаштаваць, трэба пашукаць замежны аналаг.

Беларусы зазвычай самі нарыхтоўваюць яблыкі на зіму. Рэдка хто застаецца без свайго яблыка на стале на Новы год. Шмат у каго яны захоўваюцца да сакавіка-красавіка. Што не скажаш пра РСТ. Бо ў дзяржгандлі прадаюць выключна заморскія яблыкі. Нешта не чуваць, каб у нас будавалі нейкае сховішча для іх. А значыць і яблыкі з таго саду, які заклалі ў Мамойках і які пачне праз год-два даваць першы ўраджай, пойдуць выключна на віно.

**Г.Станкевіч.**



НАША ЖЫЦЦЁ

## Пра выбары і “лініі”

Існуе пэўная заканамернасць: калі ў рэспубліцы праводзяцца выбары любога ўзроўню, на месцах у раёнах актывізуюцца дзеянні мясцовай улады. Бешанковіцкі раён у гэтым шчыраванні не выключэнне. Пра тое сведчаць наўпроставыя лініі, якія згодны праводзіць першыя асобы раёна ледзь не штодня. Але ж практыка сведчыць, што для жыхароў раёна тая начальніцкая актыўнасць мала што змяняе. Праблемы, якія гадамі накапліваліся, як не вырашаліся да ліній, так не вырашаюцца пасля іх.

Возьмем для прыкладу пытанне дабраўпарадкавання вуліц Авангарднай і Чкалава, якое ўздымалася на наўпроставай лініі 14-га верасня 2012-га года. Адразу прыходзіць на памяць тое, што аналагічнае пытанне ўздымалася перад апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі 19-га снежня 2010-га года. Тады старшынёй райвыканкама Пяньkoўскім было даручана кіраўніку камунгаса тэрміновa навесці парадак на вуліцы імя Чкалава. Апошні, праўда, спрабаваў пярэчыць, маўляў, няма рэсурсаў. Але атрымаў строгі начальніцкі ўказ: “Зрабіць і дакласці аб выкананні.” Ды толькі воз і зараз там. Ніводной машыны пяску, ніводнага метру асфальту тая вуліца імя Чкалава так дасёння і не ўбачыла. І вясной, і ўвосень, і ўзімку яна толькі часткова праезджая. І гэта адна з вуліц, блізкіх да гарадскога цэнтра!

Становіцца страшна, калі чуеш, што на наўпроставай лініі перад старшынём райвыканкама зноў і зноў ставяцца пытанні прагрэйдараваць дарогу ці прачысціць прыдарожную канаву. Разумееш, якое бясправе мусяць трываць нашы людзі, што жывуць у райцэнтры. А чыноўнікі, якія ачольваюць высокія пасты дзяржустаноў і рэгулярна атрымоўваюць за тое аклады, як кажуць у народзе, і ў вус не дуюць. Ім і сапраўды не хапае сродкаў. Але трэба быць шчырымі і прызнацца, што на месцах робіцца далёка не ўсё, што можна зрабіць. Гэта я наконт грэйдаравання дарог і прачысткі канаў.

А цалкам сітуацыя ў краіне выглядае так, што толькі асобныя рэгіёны і асобныя гарады могуць пахваліцца, што яны нешта зрабілі ў плане ўладкавання аб’ектаў агульнагарамадзянскага карыстання. Строгая дзяржаўная цэнтралізацыя ва ўсіх сферах жыцця, дыктоўка прэзідэнтам асноўных правіл нашага жыцця і само жыццё пад гэту дыктоўку – усё гэта прывяло да класічнага бяздзеяння на месцах. За 17 апошніх гадоў больш-менш у прыстойны выгляд прывялі 17 райцэнтраў, дзе праводзілiся “Дажынкі”. А апошні 101-ы райцэнтр будзе чакаць сваіх “Дажынак” 101 год. Рэсурсаў, каб нешта зрабіць, катастрафічна не хапае. І з кожным годам іх становіцца ўсё менш і менш. Пры дыктатурах інакш не бывае. Але пры гэтым у Беларусі створана фантастычная сістэма, для захавання існуючай мадэлі развіцця да канца жыцця першага прэзідэнта, то бок на бліжэйшыя дваццаць-трыццаць гадоў.

Да чаго тое можа прывесці вядома з гістарычных аналагаў.

**М. Васільеў.**

## Мая маленькая радзіма

*Сярод мясцін, што з Сусветам лучаць,*
*Такім вялікім,*
*Мой родны кут, што калісь агучыў*
*Я першым крыкам.*

*Калі падрос, то з дарог бясконцых*
*(Іх зведаў досыць)*
*Вяртаў на сцежкі, што помняць сонца*
*Ад пятак босых.*

*Не раз праходзіў праз аркі брамаў*
*З раскошным ганкам,*
*А сніўся родны шчарбаты ганак*
*З тугою клямкай.*

*Буйною бульбай не спакушаўся,*
*Хапала дробнай.*
*Дзе б ні блукаў – да цябе вяртаўся,*
*Куток мой родны.*

*Калі мяне пад старыя хвоі*
*Навек прыпішуць,*
*Кустом ці дрэвам у простых строях*
*Паўстану ў цішы.*

*Лагодным ветрам у чыстым полі*
*Сяброў прывечу.*
*І Вас, каму не маніў ніколі,*
*Крану за плечы.*

**Г.Станкевіч.**

## “КРЫВІНКА” Ў ІНТЭРНЭЦЕ

У сувязі з праблемай размяшчэння газеты “Крывінка” на партале http://haradok.belarda.org/ наша газета стала будзе размяшчацца на партале **http://kamunikat.org/** , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: **http://kamunikat.org/kryvinka.html** , што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання.

## АБ’ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Крывінкі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Крывінка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

ЛЮДЗІ, КРАІНЫ, ВАНДРОЎКІ

# ШВЕДСКІЯ ЦІКАВОСТКІ

*(Заканчэнне)*

Два тыдні знаходжання там прадэманстравалі мне, чалавеку з іншым менталітэтам, што жыццё ў гэтай краіне падпарадкоўваецца тром культам: культу дзіцяці, культу ежы і культу адпачынку. У мяне нават склалася ўражанне, што у Швецыі ніхто нідзе не працуе, а ўсе толькі адпачываюць, настолькі прадуманымі былі ўсе акалічнасці іхняга спакойнага жыцця. У Швецыі нават дзверы нідзе не трэба адчыняць прымусова, бо паўсюль яны адчыняюцца самі. Усе гарадскія аўтобусы і трамваі абсталяваны пандусамі, каб і інвалідам, і маці з вазкамі было зручна ў іх заходзіць. Дарэчы, у транспарце адведзены спецыяльныя месцы для дзіцячых вазкоў, і там нельга стаяць, нават калі ёсць вольнае месца. Звонку аўтобусы маюць спецыяльныя кнопкі "Stop", гэта дзеля таго, каб паспець прыпыніць адыходзячы транспарт, калі ты крыху спазніўся. Мы самі карысталіся не раз гэтай кнопкай. Так цікава, калі ты на яе націскаеш – кіроўца, я збіраўся ад'язджаць, зноў прыпыняе аўтобус і адчыняе дзверы.

Уражвае архітэктура гётэборгскіх вуліц, таму што амаль паўсюль тут толькі старадаўнія будынкі. Вуліцы ёсць асфальтаваныя, але ў асноўным на іх ляжыць родная каменьчатая брусчатка. У мяне засталося шмат фота, зробленых там. Вельмі спадабаліся мне навокал прыгожыя рададэндроны – ружовыя, колеру бэзу, пунцовыя, але яны ўжо адыходзілі ў гэты час, і іх змянялі чароўныя ружы. Зялёныя лужкі ў Швецыі таксама служаць на карысць адпачынку гараджан, бо, як толькі засвеціць сонейка, на іх высыпаюць людзі, каб там сядзяць і ляжаць. Нідзе не заўважыла я правядзення якога-небудзь рамонту або раскопанай і кінутай дарогі. Аказваецца, калі тое часам адбываецца, то гэтае месца настолькі завешваюць спецыяльнымі шырмамі. Іх падбіраюць нават пад колер вуліцы, каб гэта не кідалася ў твар, не парушала эстэтыку і не ўздзейнічала негатыўна на псіхіку чалавека.

Асобна хочацца сказаць пра крамы. Перш-наперш, калі параўноўваць іхнія цэны з нашымі, то становіцца вельмі прыкра, з-за таго, што ў нашых крамах усё страшэнна дорага. Мала таго, што якасць тавараў, якія бачыш там вельмі высокая, але там яшчэ прадугледжаны яшчэ розныя зніжкі. І людзі ў асноўным набываюць усё па гэтым зніжкам. Проста ходзяць гэтыя шведы і скідваюць амаль усё агулам, без разбору ў свае пакупніцкія кошыкі… Там я нарэшце зразумела, адкуль бярэцца так званы "сэканд-хэнд"!

Колькасць тавараў у крамах, калі сказаць што уражвае, то гэта значыць нічога не сказаць… Але пра бонусы. Напрыклад, калі я сабе набывала прыгожы шалік, пры разліку сказалі, што калі я вазьму два шалікі, то яны будуць каштаваць кожны не 50 кронаў, а толькі 40. І гэтыя бонусы там проста бясконца! Мне патрэбны былі тэрмінова белыя шкарпэткі, дык аказалася, калі я куплю іх пяць пар адразу, то тое будзе толькі крыху даражэйшым, чым калі б я купіла толькі адну пару. То бок прадумана шмат спосабаў, каб заахвоціць пакупніка і каб пазбавіць вытворцаў вялізнай колькасці тавараў.

Цяпер пра кошты. Напрыклад, за фен "Цэптар"у Беларусі я аддала 50 эўра. А ў Швецыі ён каштуе на нашы рублі 189 000, ці менш 20-ці эўра! Крыўдна, праўда? Вялікі махровы ручнік з бавоўны на нашыя грошы каштуе 35 000. Баваўняныя майкі якасныя і прыгожыя, тыя, што і ў "сэканце" мы купляем нетанна, там можна набыць ад 35 000 на беларускія грошы. Дарэчы, зараз мой сын вярнуўся з Еўропы, і распавёў, што ў Польшчы і Германіі якасныя майкі на распрадажах набываюцца ўсяго за 3( !!!) даляры… Вось як бывае. Тыя рэчы, што ў нас на "Эвікомах" ды "Кантынентах" каштуюць 400 000 – там па 100 000, сама параўноўвала. Купіла там вялікі чамадан на колах, дык ён, якасны і эстэтычна прыгожы каштуе на нашыя грошы 250 000. Калі ж прыехала дамоў і зайшла ў нашу родную "Галантэрэю", то ўбачыла, што такі ж, толькі маленькі чамаданчык айчыннай вытворчасці каштуе 500 000.

Вельмі спадабаліся гаспадарчыя тавары – так бы мовіць, для дому, для сям'і. Камплекты пасцельнай бялізны ў такім асартыменце, што вочы разбягаюцца. Пачынаючы з матэрыі , з якой яны пашыты і заканчваючы колерамі, расфарбоўкамі, рознымі аздабленнямі. Гэта проста трэба бачыць. Набор сталовы брэнда "Ікея" (нажы, відэльцы і лыжкі некалькіх відаў) я купіла ўсяго (ў эквіваленце) за 200 000 беларускіх рублёў. Напэўна, у нас алюміневы набор на рынку каштуе даражэй.

Ёсць крамы, дзе ты можаш апрабаваць тавары і, калі яны не спадабаліся, нічога не набываць. Напрыклад, мы заходзілі ў краму касметычных сродкаў, дзе можна паспрабаваць мыльныя сродкі (памыць рукі), або крэмы ці бальзамы. Табе яшчэ і масаж рук зробяць і скажуць: "Дзякуй!" Канечне, для нас гэта проста фантастычна.

Вялікая ўвага надаецца ў Швецыі здароваму ладу жыцця ва ўсіх сферах. У гэтым сэнсе хочацца сказаць пра тое, як апранаюцца шведы. Першыя дні мне здавалася, што яны ходзяць неякія неахайныя. Але мяне праканусультавалі і, прыглядзеўшыся, я зразумела, што на самой справе, яны апранаюцца вельмі проста і рацыянальна, але ва ўсё натуральнае і зручнае. Напрыклад, за два тыдні майго там існавання я ўбачыла толькі адну жанчыну на высокіх абцасах, і ўсё. Усе ходзяць у красоўках, кедах, тапках – і маладыя, і старыя. Усе ходзяць у джынсах, капры, майках, туніках – адзенне баваўнянае і натуральнае.

У крамах не прынята, калі з плечыкаў упала нейкая рэч, падымаць яе і вешаць на ранейшае месца. Мне сказалі, што гэтага не трэба рабіць, бо ёсць людзі, якія тое зробяць за цябе. Я з гэтага вельмі дзівілася.

А напрыканцы пра смецце. Пры выкідванні яно павінна быць строга класіфікавана, то бок, шкло, пластык – у адзін пакет, папера – у другі, упакоўкі з-пад малочных прадуктаў перад тым як выкідваць неабходна абавязкова памыць.

Н. Бондар.

ЗВАНОК НА ЛІНІЮ

# Дарожная разметка

21-га верасня я вырашыў скарыстацца нагодай чарговай наўпроставай лініі і задаць першым асобам раёна пытанне наконт дарожнай разметкі. Справа ў тым, што блізу аб'екта гандлю, найбольш наведваемага па выходных у райцэнтры– калгаснага рынку, на скрыжаванні вуліц Урыцкага і Кастрычніцкай адсутнічае дарожная разметка. Тысячы людзей штонядзелю, паставіўшы аўтамабіль на паркоўцы, перасякаюць вуліцу Урыцкага, каб дайсці да рынку, а пешаходнай "зебры" тут няма. Няма тут і стацыянарных знакаў "Пешаходны пераход", у чым я ўпэўніўся назаўтра пасля лініі. Скажам яшчэ, што гэты шлях да рынка – найкарацейшы.

Вы думаеце на той "лініі" мне падзякавалі за падказку? Зусім наадварот. Першы намеснік старшыні РВК Акуневіч С.Г. выказаў сумнеў у неабходнасці тут разметкі, запэўніўшы, што тут хапае і адных дарожных знакаў (якія на самрэч адсутнічаюць). Як аказалася, не ведае ён і пра тое, што гандаль на рынку пачынаецца па выходных у пяць-шэсць гадзін раніцы, а таму ў восеньскіх прыцемках разметка тут патрэбна як паветра.

Мне было адказана, што "мы падумаем над вырашэннем гэтага пытання." Па-сутнасці адна з першых асоб раёна паказала сваю недасведчанасць і некампетэнтнасць пры разглядзе простага пытання, якое тычыцца ўсіх грамадзян раёна.

Адсутнічае пешаходная разметка "зебра" не толькі блізу калгаснага рынку. Але гаварыць пра тое з чыноўнікам мне чамусьці расхацелася.

Г.Станкевіч.

ЯК ЖЫВЕШ, ГАНДАЛЬ?

# Уцэнка

Калі вы наведваеце раённы "Універсам", то, пэўна, не раз звярталі ўвагу на наяўнасць у мясным аддзеле прадуктаў з паметкай "уцэнка". Напрыклад, сёння, 22-га верасня, у вітрыне-халадзільніку для пакупнікоў быў выстаўлены "кумпяк па-вясковаму" коштам каля 80 000 рублёў за кг. А побач такі ж "кумпяк па-вясковаму" з паметкай "уцэнка" коштам у 60 000 рублёў. Праўда, нават на знешні выгляд уцэнены прадукт моцна адрозніваецца ад паўнавартаснага. Па-сутнасці, мы маем тут продаж прадуктаў харчавання, якія страцілі сваю прыгоднасць для ўжывання чалавекам у ежу. Бо той "кумпяк", пэўна, ліпкі на вобмацак і мае даволі спецыфічны пах. Тым не менш, замест утылізацыі, яго выстаўляюць на продаж па часткова зніжаным кошце. Той небарака, хто асмеліцца зэканоміць 20 000 рублёў і набыць той кумпяк, на самой справе страціць усе 60 000, бо есці той прадукт можна хіба што нават жыцца толькі яўна хворая галава.

Падобныя ўцэненыя тавары можна перыядычна сустрэць і ў аддзеле садавінаагародніны таго ж "Універсаму". Тут пад выглядам уцэненых прадуктаў вы зможаце набыць пачарнелыя бананы ці напаўгнілыя яблыкі.

Мне здаецца, што падобны "распродаж" мае месца таму, што раённае спажывецкае таварыства (РСТ) пастаянна прадае тавары па завышаных цэнах. Зразумела, што іх не раскупляюць і яны прыходзяць у непрыгоднасць. Калі б нейкі эканаміст падлічыў страты ад такога продажу, ён, пэўна, параіў бы чыноўнікам РСТ не завышаць кошты, асабліва на тых прадуктах, якія хутка псуюцца. А пакуль што чыноўнікі ад РСТ стараюцца падсунуць нам гніль з тухляцінай, і за тое яшчэ садраць з нас плату.

Л.Паўлава.

ЧЫНОЎНІЦКАЯ СПРАВАЗДАЧА

# З НАГОДЫ АДНОЙ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

Раённая "Зара" № 75 ад 18-га верасня апублікавала адказы старшыні Бешанковіцкага РВК Л.К.Пяцькоўскага на некаторыя пытанні карэспандэнта раённай газеты з нагоды выбараў у Палату прадстаўнікоў. Тыя адказы былі пададзены ў раёнцы як прэс-канферэнцыя старшыні РВК, хаця яна вельмі падобна на любую справаздачу любога чыноўніка, а таму багатая на розныя цікавыя лічбы. Чытаеш тую справаздачу, то бок адказы на пытанні, і ў вачах пярэсціць ад мільярдаў, якія выдзелены або атрыманы, ад працэнтаў, ад пераліку арганізацый.

Мне хочацца засяродзіць увагу чытачоў "Крывінкі" на некаторых прыведзеных лічбах і даць да іх каментары.

Амаль усе сродкі ў нашым раёне накіраваны не на сацыяльнае развіццё раёна, а на будаўніцтва і рэканструкцыю фермаў ці зернесушылак. І гэта вырашалі не мы, а адзін чалавек, які сёння кіруе Беларуссю. Альтэрнатывы тут мы не маем аніякай. Тое, што на вялізных комплексах, што ўзводзяцца могуць узнікнуць вялізныя эпідэміі і мы можам усё ўмомант страціць– нікога не кранае. Мы працягваем бяздумна выконваць указ. Ну, няхай 89 мільярдаў накіравалі на рэканструкцыю васьмі ўжо існуючых фермаў. Але ж толькі адзін новы буднянскі комплекс каштуе 52 мільярды! А цэнтральны ходнік уздоўж вуліцы Свабоды пасля кожнага дажджуператвараецца ў непраходнае балота. Іншыя ж вуліцы не могуць пахваліцца і тым.

Мы будуем басейн. Толькі ягоная праектна-каштарысная дакументацыя каштуе 773 мільёны рублёў – гэта гадавы бюджэт усіх настаўнікаў Пяцігарскай СШ, якую з нейкай нагоды раптам гвалтоўна разагналі. Басейн будзе будавацца каля гасцініцы. Зноў-такі нас не спыталі, дзе яго будаваць. Магчыма, і тое думка многіх бешанкоўцаў, было б лепш, каб яго пабудавалі каля адной з сярэдніх школаў раёна. Дзеці на ўроках фізкультуры змаглі б тады ім напоўніцу карыстацца. Пры іншым размяшчэнні ім будуць карыстацца толькі тры дзесяткі бешанкоўскіх чыноўнікаў і прадпрымальнікаў. Дзяцей з сярэдніх школ сюды можна будзе даставіць хіба што на аўтобусах.

Далей. Тое, што ў раёне, як і паўсюль у Беларусі, яшчэ развіваецца дробны і сярэдні бізнес, гэта зусім не дзякуючы існай уладзе, а, наадварот, насуперак ёй. Насуперак усім бязглуздым, на маю думку, законам, якія абмяжоўваюць прыватны бізнес, яго доля ў бюджэце нашага раёна няўхільна расце і ўсё ж складае сёння 35%, а магла б складаць і ўсіх 90. (Усе мы добра памятаем выказванне нашага прэзідэнта пра прадпрымальнікаў – "вшивых блох".)Абсалютная бальшыня прыватных крамаў працуюць паспяхова, што не скажаш пра дзяржаўныя. Нягледзячы на рамонт і рэканструкцыю многіх гандлёвых кропак, на патрачаныя мільёны і мільёны рублёў, большасць з іх балансуе на мяжы закрыцця. Пра тое сведчаць рэгулярныя абвесткі ў "Зары" аб добрым дзесятку вакансій у тых крамах. Там псуюцца тавары, пастаянныя недастачы, прадавачкам недаплачваюць, прымушаюць плаціць за сапсаванае. Усё тое вядзе да высокай цякучкі кадраў. Усё тое ненармальна, але на прэс-канферэнцыі пра тое ні слова. Раённае спажывецкае таварыства, поўнасцю адказнае за такі стан рэчаў – працвітае. Бо ўсе заданні, працэнты, планы ў яго выконваюцца.

Таксама, як вынікае са справаздачы, у нас выконваюцца ўсе сацыяльныя стандарты па забяспячэнню бешанкоўцаў вадой. Але пра якасць той вады – ні слова. Труціцеся на здароўе! Нядаўна бывшага начальніка "Вадаканала" нават узнагародзілі ганаровай граматай. Пэўна, за вядомую ўсім якасць пітной вады.

Яшчэ на прэс-канферэнцыі з гонарам падкрэслівалася, што ў раёне зніжаецца норма расходу прыроднага і звадкаванага газу на прыгатаванне ежы. Фактычнае спажыванне складае 3,8 кубаметра за месяц, пры норме 8, а звадкаванага – 1,7 балона за год, пры норме ў 10 балонаў. Чаму нашы людзі адмаўляюцца ад таннага экалагічна чыстага паліва, аддаючы перавагу іншым крыніцам? Адказ вельмі просты: яны эканомяць на гэтым апошнія капейкі з пенсій і заробкаў, прымушаючы сябе займацца дрывамі і печкамі. Ці ж гэтым трэба ганарыцца? Нямецкія фермеры ацяпляюць узімку расейскім газам свае фермы з свінямі, а нашы людзі эканомяць газ на гатаванні ежы для сябе.

Наогул, у раёне ёсць шмат вострых і надзённых пытанняў, якія, зразумела, начальніку не задалі. А "Крывінку" на прэс-канферэнцыю проста не запрасілі. Маўляў, заплюшчым вочы і скажам, што такой газеты не існуе. А дарэмна.

Г.Станкевіч.

ПАЗІЦЫЯ АБСЕ

# “ВЫБАРЫ – КАЛІ ЛЮДЗІ СВАБОДНА ВЫКАЗВАЮЦЦА. ГЭТАГА МЫ НЕ БАЧЫЛІ”

ЗАТОЕ НАЗІРАЛЬНІКІ АБСЕ ЗВЯРНУЛІ ЎВАГУ НА ВЯЛІКУЮ КОЛЬКАСЦЬ ЛАЯЛЬНЫХ ДА ЎЛАДАЎ СЯБРАЎ У СКЛАДЗЕ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ. СПЕЦЫЯЛЬНЫ КААРДЫНАТАР КАРОТКАТЭРМІНОВАЙ МІСІІ НАЗІРАННЯ ЗА ВЫБАРАМІ АБСЕ МАТЭА МЕКАЧЫ КАНЧАТКОВАЙ АЦЭНКІ ПАРЛАМЕНЦКІМ ВЫБАРАМ У БЕЛАРУСІ ПАКУЛЬ НЕ ДАЎ. АЛЕ ПАПЯРЭДНІЯ ВЫСНОВЫ ЗРАБІЎ, ПАВЕДАМЛЯЕ ЕЎРАРАДЫЁ.

**Матэа Мекачы:** «Выбары - гэта калі людзі могуць свабодна прамаўляць і арганізоўвацца. Мы гэтага не бачылі ў гэтай кампаніі. Прававая база не гарантуе таго, што выбары будуць праведзеныя ў адпаведнасці з абавязальніцтвамі АБСЕ. Былі праблемы з адвольнасцю праверкі подпісаў, а таксама не хапала нейтральнасці ў арганізацыі выбараў. Больш за 96% месцаў у камісіях займалі лаяльныя да ўраду грамадскія арганізацыі і партыі».

Асаблівую ўвагу прадстаўнік АБСЕ звярнуў на немагчымасць удзельнічаць у выбарах вядомых па прэзідэнцкіх выбарах палітыкаў.

**Матэа Мекачы:** «Вядомыя палітычныя дзеячы, якія маглі адыграць ролю на гэтых выбарах, яны альбо знаходзіліся ў турме, альбо ім было адмоўлена ў рэгістрацыі, альбо з-за судзімасці, альбо – з-за адвольных адміністрацыйных дзеянняў. І з-за таго, што была такая абмежаваная канкурэнцыя, і выбар выбаршчыкаў быў абмежаваны».

Што тычыцца пазітыву, то Матэа Мекачы адзначыў тэледэбаты. Але звярнуў увагу на тое, што яны былі не ў прамым эфіры, а ў запісы. І тое, што частка з іх была адцэнзуравана, а частка – увогуле не выйшла ў эфір з-за таго, што кандыдаты заклікалі да байкота выбараў.

У сваю чаргу кіраўнік дэлегацыі назірання за выбарамі АБСЕ/БДІПЧ Антонія Мілашоскі заявіў, што не пабачыў, каб парламенцкія выбары ў Беларусі былі праведзеныя ў адпаведнасці са стандартамі АБСЕ.

Нагадаем, напярэдадні старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына параіла назіральнікам АБСЕ ацэньваць беларускія выбары не толькі з пазіцыі «ведамаснай інструкцыі».

ШТО АТРЫМАЛІ

# ЕЎРАПАРЛАМЕНТ НЕ ЗМОЖА АДНАВІЦЬ АФІЦЫЙНЫЯ АДНОСІНЫ З НОВАЙ ПАЛАТАЙ ПРАДСТАЎНІКОЎ

«Я ГЛЫБОКА ШКАДУЮ, ШТО ПАРЛАМЕНЦКІЯ ВЫБАРЫ Ў БЕЛАРУСІ Ў ЧАРГОВЫ РАЗ НЕ АДПАВЯДАЛІ МІЖНАРОДНЫМ СТАНДАРТАМ СПРАВЯДЛІВАГА І ПРАЗРЫСТАГА ВЫБАРЧАГА ПРАЦЭСУ», - ЗАЯВІЎ КІРАЎНІК ЕЎРАПАРЛАМЕНТА МАРЦІН ШУЛЬЦ.

Тэкст заявы размешчаны на афіцыйным сайце кіраўніка ЕП. «У сітуацыі, калі лідэры апазыцыі застаюцца ў турме, калі некаторым апазіцыйным кандыдатам адмоўлена ў рэгістрацыі, а народу затыкаюць рот, адбылася насмешка над дэмакратычнымі выбарамі», - сказаў Шульц.

Паводле яго слоў, выбары ў Беларусі былі «азмрочаныя абмежаваннямі доступу да СМІ, перашкодамі, якія чыніліся міжнародным назіральнікам пры кантролі за падлікам галасоў, а таксама паведамленнямі пра ціск на розныя групы выбаршчыкаў».

Беларусь, падкрэсліў Шульц, паранейшаму ідзе па недэмакратычнаму шляху, пазбаўляючы сваіх грамадзян грамадзянскіх правоў і правоў карыстацца перавагамі больш цеснага супрацоўніцтва з Еўрасаюзам. «Я шкадую, што ў гэтай сітуацыі Еўрапарламент не зможа аднавіць афіцыйныя адносіны з беларускім парламентам. Я ўжо даўно страціў ілюзіі адносна добрай волі беларускага кіраўніцтва ўзяць на сябе абавязацельствы для таго, каб правесці дэмакратычныя рэформы», - сказаў Шульц.

Кіраўнік Еўрапарламента падкрэсліў, што Еўразвяз павінен, нарэшце, распрацаваць эфектыўную стратэгію адносін з Беларуссю, гэта значыць «вырашыць, як цвёрда рэагаваць на абуральныя парушэнні правоў чалавека і вяршэнства закона і як падтрымліваць беларускі народ і яго грамадзянская супольнасць, якое змагаецца з многімі цяжкасцямі».

Недэмакратычнымі названы парламенцкія выбары і ў папярэдняй справаздачы прадстаўнікоў Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ), які быў прэзентаваны 24 верасня ў Мінску. «Многія абавязацельствы ў рамках АБСЕ па дэмакратычных правах грамадзян на свабоднае вылучэнне кандыдатаў і магчымасць свабодна выказваць меркаванне не былі выкананы», - гаворыцца ў дакуменце. Гэта, на думку назіральнікаў, падрывае давер да мінулай выбарчай кампаніі.

**«БелаПАН».**

ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

# АДМІНІСТРАЦЫЯ МАЗЫРСКАЙ КАЛОНІІ ПАГРАЖАЕ ДАШКЕВІЧУ ЗГВАЛТАВАННЕМ

ЛІДЭР ЗАРЭГІСТРАВАНАГА Ў ЧЭХІІ «МАЛАДОГА ФРОНТУ» ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ ЎЖО 7 ДЗЁН ТРЫМАЕ ГАЛАДОЎКУ Ў КАРЦЭРЫ МАЗЫРСКАЙ КАЛОНІІ. 27 ВЕРАСНЯ СТАЛІ ВЯДОМЫЯ ЧЫННІКІ ГЭТАГА РАШЭННЯ. ІХ АГУЧЫЛА НЯВЕСТА ПАЛІТВЯЗНЯ, НАМЕСНІК СТАРШЫНІ АРГАНІЗАЦЫІ АНАСТАСІЯ ПАЛАЖАНКА.

Як паведамляе прэс-служба «Маладога Фронту», пры першай жа сустрэчы з Дашкевічам начальнік калоніі стаў нецэнзурна абражаць і зневажаць палітвязня. У тым ліку, і ціск аказваўся і па рэлігійнай прыкмеце.

Палітвязень знаходзіцца ўсяго тыдзень у Мазырскай калоніі, аднак у дачыненні да яго ўжо некалькі разоў збіралася турэмная камісія, якая пазбавіла Дзмітрыя Дашкевіча ўсіх спатканняў і зрабіла вымову.

У барак, дзе жыве каля 40 чалавек, прыйшоў рэжымны супрацоўнік і знайшоў на стале чыёсьці лязо. Нягледзячы на тое, што лязо не прыналежыла Дашкевічу, адміністрацыя калоніі пагражала паставіць яго на ўлік як суіцыдніка.

Пасля ўсіх здзекаў Дзмітрый Дашкевіч напісаў заяву аб тым, што пачынае галадоўку. Начальнік рэжымнага аддзела яго скамячыў і выкінуў, пры гэтым пагражаючы лідэру «Маладога Фронту» згвалтаваннем іншымі вязьнямі.

Пасля гэтых і многіх іншых інцыдэнтаў Зміцер адмовіўся выконваць любыя загады, і яго адправілі зноў на камісію, дзе далі новы тэрмін у СІЗА. Лідэр «Маладога Фронту» не збіраецца спыняць галадоўку, пакуль да яго не зменіцца стаўленне адміністрацыі калоніі.

– Дзмітрый Дашкевіч у калоніі ўсяго тыдзень. Што можа быць далей – цяжка ўявіць ... У гутарцы са мной начальнік рэжымнага аддзела прыгразіў, што калі нешта выйдзе ў СМІ – Дашкевічу будзе горш. Але я не бачу іншага варыянту, акрамя агучвання гэтых жудасных рэчаў, - заявіла Анастасія Палажанка.

28 жніўня лідэру «Маладога фронту» дадалі яшчэ год за кратамі. Яго абвінавацілі ў непадпарадкаванні адміністрацыі выпраўленчай установы. Дашкевіч знаходзіцца ў турме са снежня 2010 года. У сакавіку 2011 года яго асудзілі на два гады пазбаўлення волі калоніі агульнага рэжыму нібыта за збіццё двух чалавек.

ГАНДАЛЬ ВЯЗНЯМІ

# ВЫЗВАЛЕННЕ КАВАЛЕНКІ — СПРОБА НЕЙТРАЛІЗАВАЦЬ МАГЧЫМЫЯ НОВЫЯ САНКЦЫІ ЕС

ВЫЗВАЛЕННЕМ ВІЦЕБСКАГА АПАЗІЦЫЯНЕРА СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКІ БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ СПРАБУЮЦЬ ТАРГАВАЦЦА З ЕЎРАСАЮЗАМ. ТАКОЕ МЕРКАВАННЕ ВЫКАЗАЎ ПАЛІТОЛАГ ВАЛЕРЫЙ КАРБАЛЕВІЧ.

«Перад беларускімі ўладамі стаяць дзве задачы. Па-першае, неабходна нейтралізаваць негатыўную ацэнку выбараў у Беларусі з боку еўрапейскіх структур. Па-другое, пазбегнуць магчымага прыняцця новых санкцый ЕС адносна Беларусі», — сказаў Карбалевіч.

Ён нагадаў, што беларускае пытанне будзе разглядацца Саветам міністраў замежных спраў Еўрасаюза ў сярэдзіне кастрычніка. «Каб вырашыць гэтыя дзве задачы, і зроблены такі прэвентыўны крок. Тым больш, Каваленка сам напісаў прашэнне аб памілаванні, — заўважыў палітолаг. — Думаю, што Захад цалкам гэта прыме.

Еўрасаюз зараз не зацікаўлены ў нейкіх новых негатыўных кроках адносна Беларусі.

Тым больш іх цяжка прыдумаць, а тут ёсць такая магчымасць сказаць, што, з аднаго боку, ёсць, вядома, канфлікт са Швецыяй, недэмакратычныя выбары, а з другога — вызвалілі чарговага палітзняволенага. Ёсць прычына яшчэ раз заявіць з усёй строгасцю, што трэба выконваць правы чалавека і вызваліць астатніх палітзняволеных».

Карбалевіч мяркуе, што ЕС можа абмежавацца такімі заявамі і больш не рабіць ніякіх рашучых дзеянняў. Калі ж вызвалення аднаго Каваленкі Заходу падасца недастаткова, то, зазначыў Карбалевіч, ёсць яшчэ Павел Сырамолатаў — адзін з анархістаў, асуджаных за спробу падпалу будынка КДБ у Бабруйску, які таксама напісаў прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі.

«Думаю, што ён — першы кандыдат на вызваленне, калі адным Каваленкам справа не абмяжуецца», — сказаў Карбалевіч. 27 верасня быў вызвалены і Павел Сырамолатаў.

**БелаПАН.**

РЭХА РАСТРЭЛУ

# МАЦІ РАССТРАЛЯНАГА УЛАДЗІСЛАВА КАВАЛЁВА ПАДАЛА НАГЛЯДНУЮ СКАРГУ

ЛЮБОЎ КАВАЛЁВА ПАДАЛА НАГЛЯДНУЮ СКАРГУ Ў ВЯРХОЎНЫ СУД 27 ВЕРАСНЯ. «СУДДЗЯ, ЯКІ НАС ПРЫМАЎ, ХАЦЕЛАСЯ Б ДУМАЦЬ, ШТО ЁН СУР'ЁЗНА ПАСТАВІЦЦА ДА ГЭТАЙ СПРАВЫ. АЛЕ ЁН НАВАТ НЕ ПАДЫМАЎ ВОЧЫ. МАШЫНАЛЬНА ПРАГЛЯДЗЕЎ, І ТО — ТОЛЬКІ ПАПЯРЭДНЮЮ. СКАЗАЎ, ШТО СКАРГА ПРЫНЯТАЯ», — КАЖА ЛЮБОЎ КАВАЛЁВА.

У скарзе больш за 50 старонак. Там пералічваюцца ўсе парушэнні крымінальна-працэсуальнага кодэкса.

У дакуменце — згадваюцца хадайніцтвы адвоката, якія адхіліў суд, парушэнні права на абарону, калі адваката не пускалі ў СІЗА. А таксама парушэнне права на абскарджанне, калі Кавалёву не далі магчымасці сустрэцца і падпісаць скаргу напярэдадні казні.

У скарзе ўказваюцца факты адсутнасці слядоў выбуховых рэчываў, дадаюцца стоп-кадры відэазапісу, які не дазволілі адвакату пракаментаваць у судзе, факты парушэння выемкі відэа з метро.

Любоў Кавалёва адзначае ў скарзе, што сваім рашэннем суд пасееў у грамадстве страх недаверу да судовай сістэмы. Адказ на скаргу мусіць прыйсці на працягу месяца.

**Віталь Ругайн, Еўрарадыё.**

ПОГЛЯД

# УСЛУЖЛИВЫЙ ДУРАК

КОНЕЧНО, ЛУКАШЕНКО ОЧЕНЬ ХОТЕЛ, ЧТОБЫ ЭТИ ВЫБОРЫ БЫЛИ ПРИЗНАНЫ. ЕСЛИ ЕВРОПЕЙСКИХ НАБЛЮДАТЕЛЕЙ ПРИГЛАШАЮТ НА ВЫБОРЫ, А ПОТОМ ГЛАВЕ МИССИИ БДИПЧ ОБСЕ НЕ ПОЗВОЛЯЮТ ВИДЕТЬ, ПРАВИЛЬНО ЛИ ВЕДЕТСЯ ПОДСЧЕТ ГОЛОСОВ - ЭТО АБСУРД, КОТОРЫЙ ХОТЕЛОСЬ БЫ КАК-ТО ПОНЯТЬ.

Первая версия – про дураков: на избирательном участке не знали, кто к ним приехал. То есть спецслужбы объявили выборам бойкот, на все забили, реализовав, наконец, свою давнюю мечту заняться теми, кем раньше занимался ОБХСС – довольными режимом. Гуляйте себе, злые западники, куда хотите!... Это с одной стороны.

А с другой – Антонио Милошоски, прежде чем его к наблюдению допустили, комиссии бейджик должен был предъявить. На котором четко и ясно написано, кто он такой, этот интеллигент в очках. Можно спорить, нужно ли нашим избирательным комиссиям уметь считать, но читать, наверное, они все-таки умеют...

В общем, версия сомнительная.

Вторая гипотеза – про умных. Нашей власти, мол, выгодно, чтобы в Беларуси был парламент, не признанный Западом. И вообще конфронтация – лучшая для нее среда обитания. Потому что тогда и враг есть, на которого можно все списать, и напрягаться с проблесками демократизации не требуется, поскольку есть большое опасение, что любая маленькая трещина режима может дать большую течь. И далее в том же духе.

Очень лестной для Александра Лукашенко выглядит эта версия, так как базируется на мифе о его крутизне, однако я бы с подобными комплиментами не торопилась. Просто потому, что если бы версия была правильной, то не требовалось бы никаких сложных построений. Ну, не приглашали бы мы европейских наблюдателей на свои выборы, как изначально грозились, – вот и вся конструкция.

Боюсь, самой близкой к истине в нашей ситуации будет третья версия – про сегодняшних белорусов.

Конечно, Лукашенко очень хотел, чтобы эти выборы были признаны. И наверняка он планировал сделать как-нибудь так, чтобы ничего серьезно в белорусских выборах не менять, но чтобы у западных наблюдателей остались от увиденного самые лучшие впечатления. В конце концов, это ведь не его выбирали, не его уровни поддержки считали. Ну, увидел бы глава миссии ОБСЕ, придя на участок, что какой-то кандидат Пупкин проиграл кандидату Жупкину. И что? Даже если этот Пупкин - кандидат власти, так и Милошеску не Геката многоглавая, везде не поспеет. На одном участке Пупкин проиграл, на других - выиграл. Но обезоружили бы главу суровых наблюдателей ОБСЕ, позволив видеть подсчет, даже не жертвуя пешкой.

Так ведь нет! Надо было держать оборону, будто охраняешь главные секреты Родины! Надо было отгонять его от стола с бюллетенями, надо было устраивать все так, чтобы глава миссии наблюдателей не дай Бог не подсмотрел, сколько там голосов на самом деле отдано за несчастного Пупкина...

Надо было так накрутить провластных наблюдателей, чтобы они на глазах у всех вырывали у председателя участковой комиссии протокол, засвидетельствовавший, что выборы не состоялись... И чтобы потом с криками «Милиция-полиция!» прямо до окружной комиссии за этим протоколом неслись и наблюдатели ОБСЕ, и наши активисты... И чтобы уже в комиссии эту, на самом деле давно озвученную на аудио и видео бумажку, прятали, переписывали, меняли...

Ну, нет тут никакого здравого смысла, никакой логики, никакого предварительного умысла. Это экспромт. Это ум такой.

Просто у нас выстроена такая система государственного управления, что теперь – что бы там Лукашенко ни планировал в политике, в экономике, в спорте – обязательно найдется какой-нибудь осел, который перекручит все планы, желая выслужиться. И все потому, что суть системы проста: чтобы каждый большой и маленький винтик послушно выполнял доведенную задачу-минимум. Иначе будет наказан.

Председателю избирательной комиссии велено дать нужный результат – и хоть Иисус Христос приди на участок – он отодвинет его от бюллетеней за кадку с пальмой. Тренеру скажут обеспечить медаль – так расстарается, что покалечит спортсмена тренировками. Главе Нацбанка дадут задание удерживать курс рубля – до обвала, до финансовой катастрофы держать будет. Скажут военным везти технику на парад к главнокомандующему – оголят все границы, «слепыми» дежурные дивизионы оставят, но повезут...

Это и есть по-белорусски, это то, что наша власть старательно выстраивает – каждый винтик без разговоров выполняет свою задачу-минимум. Правда, выполняет так, что услужливый дурак становится опаснее врага.

**Светлана Калинкина.**

БЮДЖЭТНЫЯ ЗМЕНЫ

# НАСТАЎНІКАМ І ПАЦЫЕНТАМ МАЛА НЕ ПАДАСЦА

ЧАСЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ ШЧОДРАСЦІ СЫХОДЗЯЦЬ У МІНУЛАЕ. ЎРАД УЗЯЎ КУРС НА ЭКАНОМІЮ ДЗЯРЖВЫДАТКАЎ І Ў СУВЯЗІ З ГЭТЫМ У 2013 ГОДЗЕ ЗБІРАЕЦЦА РЭАЛІЗАВАЦЬ ШЭРАГ ПІЛОТНЫХ ПРАЕКТАЎ. ПЕРШЫЯ З ІХ БУДУЦЬ УВАСОБЛЕНЫ Ў ЖЫЦЦЁ Ў СІСТЭМЕ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ І АДУКАЦЫІ.

Мінфін чакае, што ў выніку іх укаранення адбудзецца «аптымізацыя штатаў» устаноў адукацыі і «аптымізацыя колькасці пацыентаў, якія накіроўваюцца на стацыянарнае лячэнне».

Скарачэнне выдаткаў 2013 год Беларусь пачне з бюджэтных рэформаў. Улады лічаць, што неабходна мяняць прынцыпы фінансавання сацыяльнай сферы. Калі казаць аб адукацыі, то рэфармаваць фінансаванне гэтага напрамку неабходна, на думку Мінфіна, па двух прычынах.

Па-першае, Беларусь саступае іншым краінам па колькасці вучняў на аднаго выкладчыка. Калі ў Еўропе на аднаго выкладчыка прыпадае больш за 11 вучняў, то ў нас - менш за дзевяць. Такая сітуацыя, паводле ацэнак Мінфіна, прыводзіць да таго, што на ўтрыманне бюджэтнай сеткі Беларусі прыходзіцца марнаваць больш сродкаў у параўнанні з еўрапейскімі дзяржавамі.

Мяркуецца, што з 2013 года пачнецца рэалізацыя пілотнага праекта па нарматыўнаму фінансаванню 17 устаноў сярэдняй адукацыі. Арганізацыі адукацыі, якія ўдзельнічаюць у праекце, будуць атрымліваць фінансаванне на аснове адзінага нарматыву бягучых выдаткаў на аднаго вучня.

Паводле ацэнак Мінфіна, рэалізацыя гэтага праекта дасць магчымасць «паэтапна аптымізаваць штаты устаноў, якія ўдзельнічаюць у эксперыменце». Зразумела, што калі эксперымент будзе прызнаны паспяховым, да такой «аптымізацыі» прыйдзецца рыхтавацца працоўным калектывам і іншых устаноў адукацыі.

Яшчэ адзін цікавы пілотны праект, які будзе увасоблены ў жыццё ў 2013 годзе, закране сістэму аховы здароўя. Рэалізоўваць яго плануецца на базе арганізацый Мінска і Магілёўскай вобласці. Як адзначае Максім Ермаловіч, першая частка праекта «накіравана на ўдасканаленне ўмоў аплаты працы», а другая складаецца «ў аптымізацыі бюджэтных выдаткаў на лячэнне пацыентаў у стацыянары».

На думку намесніка міністра, «кірунак на стацыянарнае лячэнне не заўсёды бывае апраўданым як з эканамічнага, так і з лячэбнай пункту гледжання».

«Таму прапануецца перадаць частковае фондаўтрыманне ва ўстановах аховы здароўя на ўзровень паліклінік, што дасць магчымасць аптымізаваць колькасць пацыентаў, якія накіроўваюцца на стацыянарнае лячэнне», – мяркуе Максім Ермаловіч.

«Аптымізацыя штатаў» устаноў адукацыі напэўна прывядзе да таго, што многім супрацоўнікам школ прыйдзецца шукаць іншую працу. У той жа час «аптымізацыя бюджэтных расходаў на лячэнне пацыентаў у стацыянарах», хутчэй за ўсё, справакуе рост нагрузкі на паліклінікі. «На дадзены момант паліклінікі і так перагружаны, і калі да іх фактычна дадаць яшчэ« дзённы стацыянар », то гэта яшчэ больш ўскладніць іх працу», - лічыць Глеб Шымановіч, эканаміст Даследчага цэнтра ІПМ.

Было б, напэўна, правільна, каб правесці рэформу у сацыяльнай сферы, з якімі сёння выступае ўрад, выносіліся на публічнае абмеркаванне. Тое, што змены наспелі, зразумела. Аднак механізм іх рэалізацыі, калі справа датычыцца сацыяльнай сферы, неабходна ўзгадняць з грамадствам. Хоць бы таму, што дзяржслужачыя па аб'ектыўных прычынах далёка не заўсёды адэкватна ўспрымаюць сітуацыю ў сацыяльнай сферы.

Многія беларускія чыноўнікі, дарэчы, абслугоўваюцца ў спецыялізаванай клініцы (вядомай больш як «лечкамісія»), дзе чэргаў практычна няма і якасць абслугоўвання пацыентаў - на парадак вышэй. Таму, каб адэкватна разумець сітуацыю ў ахове здароўя і праводзіць рэформы па ўсёй краіне, дзяржслужачым не перашкаджала б часам кансультавацца з народам, які лечыцца ў звычайных паліклініках.

Гатоўнасць уладаў ісці на бюджэтныя рэформы эксперт звязвае не толькі з леташнімі падзеямі, але таксама і з надыходзячымі выплатамі па вонкавым абавязку. «У немалой ступені патрэба ў бюджэтных рэформах і пераход да новай сістэме бюджэтавання, арыентаванай на вынік, абумоўлены неабходнасцю ажыццяўлення значных выплат па вонкавым дзярждоўгу ў бліжэйшыя гады», - кажа аналітык Аляксандр Муха.

Па дадзеных Мінфіна, у 2013-2014 гг. Беларусі давядзецца пагасіць па вонкавым дзярждоўгу каля 6 млрд. даляраў. «Маючыя адбыцца плацяжы прымушаюць больш эканомна падыходзіць да бюджэтных выдаткаў і накіроўваць іх толькі ў тыя праекты, якія рэальна могуць прынесці аддачу», - рэзюмаваў Аляксандр Муха.

***(Скарочана)***

**Дзмітрый Заяц,**
**naviny.by.**

КАРУПЦЫЯ КВІТНЕЕ

# БЫВШИЙ ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ГОМЕЛЯ ЗА РЕШЕТКОЙ

В БЕЛАРУСИ ГРЯНУЛ ОЧЕРЕДНОЙ КОРРУПЦИОННЫЙ СКАНДАЛ. ПОД СТРАЖУ ЗАКЛЮЧИЛИ ЭКС-ПРЕДСЕДАТЕЛЯ ГОМЕЛЬСКОГО ГОРИСПОЛКОМА ВИКТОРА ПИЛИПЦА. КАК СООБЩАЕТ БЕЛАПАН СО ССЫЛКОЙ НА СЛОВА НАЧАЛЬНИКА ОТДЕЛА ИНФОРМАЦИИ И СВЯЗИ С ОБЩЕСТВЕННОСТЬЮ СЛЕДСТВЕННОГО КОМИТЕТА БЕЛАРУСИ ПАВЛА ТРАУЛЬКО, ПИЛИПЕЦ ПОДОЗРЕВАЕТСЯ В СОВЕРШЕНИИ ПРЕСТУПЛЕНИЯ ПО ЧАСТИ 3 СТАТЬИ 426 УК (ПРЕВЫШЕНИЕ ВЛАСТИ ИЛИ СЛУЖЕБНЫХ ПОЛНОМОЧИЙ).

Слухи об аресте Виктора Пилипца ходили еще в начале августа. Молва связывала «задержание мэра» с недавним арестом Комитетом госбезопасности должностных лиц управления капитального строительства (УКС) Гомельского горисполкома. Однако тогда Гомельский горисполком опроверг информацию об аресте мэра и официально заявил, что Виктор Пилипец приступит к исполнению своих обязанностей 7 августа после окончания трудового отпуска.

Через три недели Лукашенко освободил Виктора Пилипца от должности председателя горисполкома, напоминает «Наша Ніва». Тема скандала с гомельскими коррупционерами в очередной раз всплыла на «Дожинках» в Горках. Лукашенко рассказал журналистам о злоупотреблениях и нарушениях закона со стороны отдельных чиновников.

— Некоторые чиновники, как это случилось в Гомеле, брали десятками квартиры и перепродавали, а деньги клали себе в карман. Сегодня уголовное дело заведено, и не один чиновник со своими родственниками и приближенными сядут на скамью подсудимых, — пообещал глава государства.

Любопытно, что чиновник, которого имел в виду Лукашенко, не взялся из ниоткуда. Виктор Пилипец с июля 2007-го работал помощником президента – главным инспектором по Витебской области, с 2009-го – председателем Гомельского горисполкома.

Арест бывшего мэра Гомеля не первое громкое коррупционное дело этого года. Не так давно вся страна обсуждала скандал, связанный с арестом первого зама мэра Минска. Игорь Васильев попросил у представителей европейского инвестора полмиллиона долларов за «благоприятное решение вопроса». Чиновника взяли прямо в кабинете после получения первой части взятки в размере $ 250 тыс.

Или вспомните громкое дело бывшего заместителя министра внутренних дел Евгения Полудня. В ходе следствия выяснилось, что замминистра неоднократно получал от должностных лиц внутренних органов материальные ценности и денежные средства.

Пока чиновники набивают себе карманы, Лукашенко требует от Генпрокуратуры усилить борьбу с коррупцией. Вот только в результате его 18-летней неустанной борьбы с этим явлением взяточничество и превышение служебных полномочий в коридорах власти почему-то расцветают буйным цветом.

**Олег Мальчишкин.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 37455, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.09.2012 у 20.50.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.